Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

24 студзеня 1998 года
СУБОТА
№ 6(86)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА




## МЯСЦОВЫ

### Прачнулася «Камароўка»

**БАРАНАВІЧЫ.** Пэўна, не рызыкуючы трапіць пад гільяціну прэзідэнцкай крытыкі, як вядомы Мінскі рынак на Камароўцы, кіраўнікі тутэйшага калгаснага рынку запланавалі сёлета капітальна адрамантаваць мясны павільён на 75 гандлёвых месц, паставіць ванны для мыцця гародніны і садавіны, абсталяваць фантанчыкі з вадой для піцця, а таксама ўзвесці некалькі павільёнаў для гандлю прадуктовымі таварамі.

Даўно пара стварыць хоць невялікія зручнасці для прадаўцоў і пакупнікоў.

### Экалогія ў крыўдзе

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Доўгі час сапсаваная каналізацыя Быценскай сярэдняй школы прычыняла галаўны боль педагагічнаму калектыву. За 200 метраў ад будынка ўтварылася рукатворнае балота з бруду, які трапляў у рэчку Пясчанка, а з яе ў раку Шчара. Калі дзеці на ўроках слухалі павучанні пра беражлівыя адносіны да прыроды, яны з'едліва ўсміхаліся і пазіралі за вокны, дзе панавала антысанітарыя і стаяў суцэльны смурод.

Лёд, здаецца, крануўся. У гэтым месяцы спецыялісты СПМК-23 распачалі рамонт каналізацыйнай сеткі. Яны замяняць трубы, зробяць калодзеж. Добра было б выкарыстаць у такіх мэтах трубы керамічныя, але іх няма. Таму кладуць трубы, прыдатныя для газу, якія праз 6—7 гадоў зноў давядзецца мяняць.

### Прыліплі грошы да рук

**БЯРОЗА.** Кожны цяпер уладкоўвае сваё жыццё як можа: хто працягвае працаваць на прадпрыемстве, хто гандлюе, хто гадуе парсючкоў.

Аператар Белаазёрскага аддзялення сувязі рашыла папраўіць сваё матэрыяльнае становішча не адыходзячы ад рабочага месца. Спадзеючыся, пэўна, што рэвізія не выявіць, яна не прыходавала тыя плацяжы, якія прымала ад насельніцтва ў студзені—красавіку мінулага года. І такім шляхам паклала ў свой кашалёк каля 8 мільёнаў чужых грошай.

На спрытную сувязістку заведзена крымінальная справа.

● ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ

## Клейшчыца Марыя Імбра



*ІВАЦЭВІЧЫ. Калі ў Быценскім участку Даманаўскага вытворча-гандлёвага камбіната заходзіць размова аб лепшых працаўніках, то, як правіла, успамінаюць прозвішча клейшчыцы вешалак Марыі Канстанцінаўны Імбра (на здымку). Даўно яна тут працуе. І застаецца вернай сваёй нялёгкай прафесіі. Паважаюць Марыю Канстанцінаўну ў калектыве і за тое, што яна чулы, спагадлівы чалавек, добрая гаспадыня.* Фота А. ГАНЧУКА.

### Свет не без добрых людзей

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Пасля доўгіх пакут інвалід першай групы, жыхарка райцэнтра Таццяна Шэлест атрымала аднапакаёвую кватэру. Для чалавека, прыкаванага да інваліднай каляскі, гэта вялікая радасць, ёю падзялілася яна па тэлефоне са старшынёй раённага савета Беларускага таварыства інвалідаў І. В. Саўчуком. Напрыканцы размовы папрасіла дапамагчы ёй набыць хоць бы дзве табурэткі.

Васіль Іванавіч не адмахнуўся ад чалавека і сустрэўся дзеля гэтага з генеральным дырэктарам акцыянернага таварыства "Косаўскае МВА" Сяргеем Адамавічам Філіповічам. Апошні распарадзіўся выпісаць бясплатна інваліду чатыры табурэткі, паўтараспальны драўляны ложак з матрацам і шафу для адзення.

Мэбля ёсць. Трэба ж яе неяк даставіць у Івацэвічы. На дапамогу прыйшла дырэктар Косаўскага РГП Ганна Аляксандраўна Бушыла. Яна дала грузавік і ўсе рэчы даставілі на кватэру навасёла.

Нічога не скажаш: па-чалавечы абышліся ўсе, хто сутыкнуўся з просьбай інваліда. Ім бясконца ўдзячная Таццяна Шэлест. Дзякуй Богу, што ў людзей не ачарсцвелі душы.

### «Зайцы» косят под инвалидов

**БАРАНОВИЧИ.** Проезд по льготным поддельным удостоверениям пенсионеров и инвалидов стал чуть ли не массовым. Документы попроще отсвечиваются на современной светокопировальной технике, удостоверения умерших льготников остаются у родственников не для памяти, а бесплатного проезда. Умельцы переклеивают фотографии.

В городских автобусах нелегко в толчее выловить такого «зайца», что косит под инвалида или пенсионера. В поездах это делается более успешно.

Не худо бы знать, что бесплатный проезд во всех видах транспорта штрафуется, а подделка государственного документа уголовно наказуема.

### Прэмія газеты

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Падвёўшы вынікі падпіскі на першы квартал 1998 года, рэдакцыйная калегія абласной газеты "Заря" прыняла рашэнне аб заахвочванні лепшых распаўсюджвальнікаў газеты.

Сярод адзначаных — паштальён Аброўскага аддзялення сувязі Настасся Іванаўна Дасько. За тое, што змагла падпісаць больш за 100 падпісчыкаў, ёй уручана прэмія ў суме 300 тысяч рублёў.

### Играет «Аист»

**БАРАНОВИЧИ.** Народный духовой оркестр ветеранов производственно-коммерческой фирмы «Аист» «взлетел» на праздновании 900-летия Пинска. Управление культуры Брестского облисполкома и Пинский городской отдел культуры оценили выступление «Аиста» на отлично. А ведь в празднике участвовало более двадцати духовых оркестров. Среди них – немало молодежных. Но лучше, вдохновеннее играли барановичские ветераны.

Как утверждают старики, душой оркестра, его запевалами являются Павел Лозовский, Иван Парус, Валерий Автаев, Николай Примак.

К слову, ПКФ «Аист» – частная фирма. Ее владелец Вениамин Борисович Голынкин, удачливый предприниматель, позаботился о том, чтобы духовой оркестр объединил пожилых, но бодрых духом музыкантов. Духовики «Аиста» – непременные участники городских праздников.

### Чакаем!

**БЯРОЗА.** 13 лютага Бярозу, Белаазёрск і Малеч збіраецца наведаць сам Аляксандр Лукашэнка. Ці не зменяцца да таго часу прэзідэнцкія планы, пакуль ніхто не скажа.

● НАВІНЫ РЭСПУБЛІКІ

### Ад "Свабоды" да "Навінаў"

***10 студзеня пабачыў свет першы нумар газеты "Навіны", якую зарэгістравала і пачынае выдаваць рэдакцыя закрытай у лістападзе газеты "Свабода".***

Ідэя, структура, тэматыка і нават шрыфт і вёрстка — усё, як у "Свабодзе". "Навіны" таксама будуць выходзіць тры разы ў тыдзень, як і іх папярэдніца. Наклад пакуль невялікі — 10.000 асобнікаў, і праз "Саюздрук" яна да нас пакуль не дайшла. Да канца студзеня павінны вызначыцца ўмовы падпіскі на "Навіны". Увесь вымушаны час маўчання "Свабода" рэгулярна выходзіла ў электронным выглядзе ў Інтэрнэце.

### Пераацэнка асноўных фондаў

***Прадпрыемствы і арганізацыі рэспублікі незалежна ад форм уласнасці і відаў дзейнасці павінны правесці пераацэнку асноўных фондаў па стану на 1 студзеня 1998 года.***

Гэтая работа ажыццяўляецца ў адпаведнасці з рашэннем урада. Яна праводзіцца шляхам індэксацыі першапачатковага (аднаўленчага) кошту з выкарыстаннем каэфіцыентаў (індэксаў) пераразліку кошту асноўных фондаў або шляхам прамога пераразліку першапачатковага кошту ў цэны, што складваюцца на гэты момант на адпаведныя віды асноўных фондаў.

### Дабрачынная акцыя

***У Брэсцкім тэатры драмы і музыкі адбылося адкрыццё дабрачыннай акцыі «Прэзідэнт Беларусі — дзецям Беларусі».***

Удзел у ёй бралі каля 2,5 тысячы дзяцей з 13 школ-інтэрнатаў вобласці, а таксама дзеці са шматдзетных і малазабяспечаных сем'яў абласнога цэнтра. Артысты маскоўскіх тэатраў паказалі спектакль «Брэменскія музыканты». Дзеці атрымалі памятныя прызы, а школы-інтэрнаты — падарункі на суму 15 мільёнаў рублёў кожны.

### Адбудуем Аўгустоўскі канал

***У гэтым годзе пачнецца аднаўленне Аўгустоўскага канала, які пабудаваны ў першай палове XIX стагоддзя і злучае Нёман з Віслай.***

Працягласць канала складае 102 км, з іх 22 праходзяць па тэрыторыі Беларусі. З цягам часу беларускі адрэзак страціў ролю транспартнай артэрыі, і цяпер робіцца канкрэтныя захады па яго аднаўленні. З усталяваннем цёплага надвор'я беларускі і польскі бакі пачнуць рэканструкцыю шлюзаў.

### Жывём усё менш

***Апошнім часам назіраецца тэндэнцыя да скарачэння сярэдняй працягласці жыцця насельніцтва Беларусі.***

За 12 апошніх гадоў яна скарацілася на чатыры гады і складае цяпер 68,4 года. Па папярэдніх дадзеных, колькасць памерлых летась у краіне перавысіла колькасць народжаных на 30 тысяч чалавек.

### Арыштаваны дырэктар завода

***Арыштаваны дырэктар Бабруйскага гідролізнага завода Дамір Калінкін.***

Ён падазраецца ва ўчыненні процiпраўных дзеянняў, звязаных з гаспадарчай дзейнасцю прадпрыемства і, у першую чаргу, парушэннем тэхналагічнай дысцыпліны на вытворчасці. На заводзе працуе вялікая аператыўна-следчая група, у склад якой уваходзяць супрацоўнікі КДБ, пракуратуры і міліцыі.

*(Па старонках рэспубліканскіх газет).*

КРЫМІНАЛ

## Апаганілі магілы

Гэта здарылася 15 студзеня прыкладна ў 13 гадзін. Трое маладых людзей на добрым падпітку завіталі на гарадскія могілкі ў Івацэвічах. Вельмі ж ім карцела чымсьці пазабаўляцца і, канечне, вызначыцца адзін перад адным.

Спярша разбурылі помнік на адной магілцы, затым пачалі выцягваць крыжы на іншых і ўстаўляць у зямлю другім канцом.

У гэты час побач з могілкамі на пляцоўцы ваенізаванай пажарнай часці №18 ішлі заняткі. Пажарнікі і заўважылі тых малойчыкаў, што «ваявалі» з помнікамі і крыжамі. Дваіх пажарнікі змаглі затрымаць і даставіць у міліцыю. Імі аказаліся жыхары райцэнтра, якія нідзе не працуюць і не вучацца. Аднаму – 18 гадоў, другому – 16.

Па факце апаганьвання магіл ідзе следства.

*В. ЛЯЎЧУК, оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Івацэвіцкага райаддзела міліцыі.*

## Пахне штрафам

Хоць асобы, якія незаконна гандлююць валютай, умела маскіруюцца, аднак час ад часу маюць справу з Баранавіцкімі міліцыянерамі. Днямі апошнія накрылі двух грамадзян, адзін з якіх прадаваў, а другі купляў 50 долараў ЗША. Па гэтаму факту вядзецца следства аддзелам барацьбы з эканамічнай злачыннасцю.

Ох, і буйным штрафам пахне.

*П. НАГНІБЕДА.*

## Аматары шашлыкоў

У калгасе "Лясковічы" Бярозаўскага раёна працуюць умоўна асуджаныя са спецкамендатуры № 2. Старшыня праўлення М. М. Унучка быў вельмі задаволены работай новаспечаных жывёлаводаў.

Аднак апошнім часам з аўчарні бясследна зніклі дзевяць авечак. Няўжо ваўкі? Больш дэталёва гэтым пытаннем заняліся супрацоўнікі крымінальнага вышуку РАУС і спецкамендатуры. Яны выявілі аматараў шашлыкоў не на чатырох нагах, а на двух. Тром умоўна асуджаным прыдзецца надоўга забыць смак свежай бараніны і сёрбаць казённую баланду.

*(Наш кар.).*

АЗБУКА БЯСПЕКІ

# КАЛІ ЎЗНІК ПАЖАР

Па статыстыцы найбольш пажараў здараецца ў жыллёвым сектары (каля 75% ад агульнай колькасці): у дамах і кватэрах, у гаспадарчых пабудовах. Тлумачыцца гэта тым, што чалавек даволі часта сутыкаецца з неабходнасцю карыстацца ў такіх месцах адкрытым агнём (запалкі, газ, печы, кастры), бытавымі электрапрыборамі. Падчас пажараў у жыллі нярэдка гінуць людзі. Як правіла, гэта адбываецца ў стане сна ці алкагольнага ап'янення. Аднак нярэдкія выпадкі, калі да гібелі прыводзілі няправільныя дзеянні.

Што ж трэба рабіць, калі пажар здарыўся?

Калі загарэўся дом, трэба тэрмінова пакінуць памяшканне, дзе шугае полымя, зачыніць за сабой вокны і дзверы, каб абмежаваць доступ свежага паветра. Тэрмінова паведаміце ў пажарную службу (па тэлефоне ці некага пашліце). Калі ў доме засталіся людзі, прыміце меры па іх эвакуацыі. Паведаміце суседзям аб пажары і разам з імі бярыцеся тушыць агонь падручнымі сродкамі, папярэдне адключыўшы электраэнергію.

Калі гараць надворныя пабудовы, паклічце на дапамогу ўсіх суседзяў з супрацьпажарным інвентаром. Калі ёсць пагроза распаўсюджвання агню, патрэбна ўбраць надалей выбухованебяспечныя і лёгкія на ўзгаранне матэрыялы (бензін, фарба, газавыя балоны).



Пры моцным ветры і шчыльнай забудове часам будзе разумней не тушыць хлеў, які гарыць, а няспынна абліваць вадой пабудовы, размешчаныя побач.

Калі ж у гаспадарцы загарэўся стажок сена і пажар пагражае перакінуцца на жылы дом, то ў такім разе выклічце пажарных, паклічце суседзяў і з іх дапамогай без перапынку аблівайце вадой частку дома ці пабудовы, звернутую да стажка, які гарыць. Адначасова трэба ратаваць хатнюю маёмасць.

Неабходна таксама ўмела і правільна сябе паводзіць, калі на вас загарэлася адзенне. Так, гэта сапраўды страшна, але ў такім разе не ўздумайце бегчы, бо полымя разгарыцца яшчэ мацней. Пастарайцеся хутчэй скінуць з сябе вопратку, якая гарыць. Вам вельмі пашанцуе, калі побач акажацца лужына ці снежная гурба. Калі ж іх няма, то падайце проста на зямлю і катайцеся, спрабуючы збіць полымя. Апошняя магчымасць – накінуць на сябе любую грубую тканіну, пакінуўшы адкрытай толькі галаву. Калі вам удалося збіць полымя, не спрабуйце нават здымаць з апечаных участкаў цела адзенне. Звярніцеся хутчэй да медыкаў па дапамогу.

*В. МОЛАШ, ст. супрацоўнік ЦНППВ АВПС Івацэвіцкага раёна.*

АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

## Да пратэзіста — чарга

*— Мне ўжо за 70. Хаджу слаба, ногі баляць. І зубоў у роце засталося не больш як пальцаў на руках. Пазваніў неяк у стаматалагічную паліклініку і запытаў, як уставіць зубы. А мне сказалі, што вялікая чарга, трэба спярша запісацца. А можа я не дачакаюся той чаргі? Як быць?*

*С. ЗЯНКЕВІЧ, жыхар г. Івацэвічы.*

Вось такое паведамленне. Каб высветліць, як абстаяць справы з пратэзаваннем зубоў, мы звярнуліся ў раённую стаматалагічную паліклініку. Свае тлумачэнні нам дала загадчыца Т. І. Вакуліч.

— Сапраўды, з пратэзаваннем зубоў у нас ёсць складанасці, — сказала Тамара Іванаўна. – Часам не хапае патрэбных матэрыялаў, часам, як цяпер, захварэў урач. Для тых, хто за пратэзаванне плоціць грошы, чаргі па сутнасці няма. Ёсць чарга для льготнікаў. Гэта пенсіянеры, інваліды, чарнобыльцы і афганцы. У кожнай групы льготнікаў свая чарга. Гэтай льготай можна карыстацца адзін раз у два гады.

Працуючы пенсіянер, як адзначыла Т. І. Вакуліч, запісаўшыся на чаргу, можа папасці на пратэзаванне зубоў на працягу года.

Што можна яшчэ сказаць С. Зянкевічу? Калі маеш грошы, то чакаць прыдзецца нядоўга. А багатых пенсіянераў у нас наогул мала, больш бедных. Таму дачакацца дня пратэзавання зубоў па той льготнай чарзе можа не кожны стары чалавек. Словам, ільготы як быццам бы ёсць і як быццам бы іх і няма. Не ўсім удаецца дажыць свой век з поўным ротам зубоў, хоць і не ўласных.



ДАЛЬШЕ НЕКУДА...

## Да, молодежь, дела!..

Дальше уж некуда, решили власти г. Барановичи, лидера Брестской области по количеству правонарушений, и провели семинар "О молодежных проблемах в городе и путях их решения". Помимо представителей молодежных организаций в нем приняли участие директора школ, предприятий и учреждений. Они и попытались найти разгадку таких острых вопросов, как совершение подавляющего числа преступлений лицами до 30 лет, распространение СПИДа и венерических заболеваний, ухудшение физического и психического состояния здоровья молодых людей. Предложено в корне переработать и адресно конкретизировать городскую молодежную программу, взять на учет, изучить и решить трудоустройство юношей и девушек, оставшихся не у дел.

Надо понимать, что семинар принесет плоды в самом скором времени, а то действительно дальше уж некуда. Вечером все опаснее выйти не только погулять, но и к магазину перебежать. А знаменитое "дай закурить" теперь воспринимается жителями Барановичей как предупреждение о готовящемся мордобое и ограблении.

*П. НАГНИБЕДА.*

ЭТО ИНТЕРЕСНО

# Лентяй? Бездельник? Значит, талантлив!

Леность – постоянная черта в характере каждого человека, хотя и значится в числе самых тяжких грехов. Лень, как гласит народная мудрость, — мать всех пороков. Но, добавляет наука, и сестра всех достоинств. Недаром перед богатырскими подвигами 33 года лежал на печи Илья Муромец. А в немецкой армии существовало негласное разделение офицеров на четыре категории. Самыми опасными считались служаки тупые и энергичные. Высоких звезд на погоны не хватали также тупые и ленивые, достойные только нижнего офицерского состава. Умные и энергичные – хорошие исполнители. Они – средние офицеры и работники штабов. А вот умные и ленивые считались элитой, достойной руководящего состава армии.

Люди, которые всегда и во всем спешат, добровольно приближают свою погибель, нарушая естественный ход биоритмов в организме. А он таков, что каждые два часа (а это 10—12 раз в сутки) замедляется восприятие действительности, организм периодически отдыхает. Если этого не учитывать, перегрузки неизбежны. Насилие над собой кончается плачевно. Грустный пример – жизнь Джека Лондона. Он быстро написал много прекрасных произведений, напряженно работая каждый день. Но скончался в первом же за свою 40-летнюю жизнь отпуске. Сгорел, как свечка. Сейчас уже доказано, что он не кончил жизнь самоубийством, как считалось. Просто у него не осталось сил, чтобы жить.

Способность организма приспосабливаться к любым изменениям окружающих условий огромна, но если не торопить время. Недаром младенцы далеко не сразу привыкают к новой пище: природа здесь бережет человека. Но только в младенчестве. Дальше все зависит от него самого. Особенно опасна спешка для ярких личностей, торопящихся блеснуть своим интеллектом. Однако это в полной мере удается лишь тем, кто не спешит. Это подтверждается множеством фактов. Был такой мальчик, Альберт Эйнштейн. В школе за ним установилась прочная репутация тугодума, что его очень обижало. И дядюшка частенько утешал его: дескать, не всем же учеными быть... Любимцами учителей никогда не были Пушкин и Байрон, Дарвин, Черчилль и Пикассо. У всех в характеристиках отмечалось: не без способностей, но с ленцой.

И вообще: средние способности в детстве, неблестящие успехи в юности, скромное начало в трудовой деятельности – схожие черты биографии многих выдающихся людей. Не помогает ли им природный инстинкт распределять время, чтобы созреть, усвоить, сосредоточиться?

Вот почему философы древности считали главным правилом хорошего воспитания... научить ребенка терять время. Звучит парадоксально при нашем стиле жизни. Наши дети в постоянном возбуждении: школа, репетиторы, занятия музыкой и спортом, наконец просто телевизор не оставляют им возможности поскучать. А скука – прекрасное средство для развития воображения. Без воображения нет гения.

Еще труднее отрешиться от привычной гонки взрослым. Мы вечно спешим и вечно не успеваем. Не спешить — только проигрывать. Весь мир восхищается успехами японцев. Но они принимают свои решения со скоростью улитки, придерживаясь правила древних римлян «торопись медленно», и не делают ни одного неверного шага. Может, стоит и нам задуматься над этим удобно улегшись на диване?

*По материалам зарубежной прессы.*


Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.
Фармат 420х300 мм. Аб'ём — 1 друк. аркуш.
Падпісана да друку 22 студзеня ў 14.00.

Заснавальнік: рэдакцыя "Газеты для вас"
Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку.
Пасведчанне № 694.

РЭДАКТАР ЛІДЗІЯ ЦАЛУЙКА.
НАШ АДРАС: рэдакцыя "Газеты для вас".
вул. Дзяржынскага, 30, 225250, г.Івацэвічы.
Тэлефон: 8 (245) 2-12-29.




Тыраж 1470.
Заказ 120.